Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 13 500.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Пятніца, 30 студзеня 1998 г. № 7 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

**Шаноўныя чытачы!**

**Цяпер ужо можна аформіць падпіску на НАВІНЫ. Мы раім Вам гэта зрабіць, паколькі купіць у кіёсках нашу газету вельмі няпроста, асабліва ў Мінску. Прычына ў тым, што сталічны Белсаюздрук адмаўляецца браць у продаж дастатковую колькасць экземпляраў. Ёсць і іншыя перашкоды. Напрыклад, рэдакцыя была зацікаўленая ў тым, каб ранейшыя падпісчыкі СВАБОДЫ атрымлівалі НАВІНЫ на працягу першага месяца бясплатна (у якасці кампенсацыі за снежань), аднак чыноўнікі міністэрства сувязі выказаліся супраць. Што датычыць грошай за падпіску на СВАБОДУ на 1998 г., то ўсе яны засталіся на пошце, таму іх трэба забраць, і тут жа можна аформіць падпіску на НАВІНЫ.**

**Падпіска прымаецца да 10 лютага ва ўсіх аддзяленнях пошты і Белсаюздруку. Кошт падпіскі на 1 месяц — 34.000 рублёў, на 4 месяцы —136.000 рублёў. Падпісны індэкс газеты НАВІНЫ 63312. Газета выходзіць кожны аўторак, сераду і пятніцу.**

**Рэдакцыя**

## Ці зможа Адамкус паўплываць на Лукашэнку?

**Лені Фішэр лічыць, што на сітуацыю ў Беларусі могуць пазітыўна паўплываць краіны-суседзі.**

Выступаючы ў Страсбургу на сесіі Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, яе старшыня Лені Фішэр рэкамендавала краінам, што суседнічаюць з Беларуссю, весці актыўны дыялог з кіраўніцтвам РБ. На прэс-канферэнцыі ў дзень адкрыцця сесіі спадарыня Фішэр адзначыла, што пазіцыя дзяржаў-суседзяў магла б пазітыўна паўплываць на сітуацыю ў Беларусі. Асаблівая роля ў дыялогу з Мінскам, на яе думку, павінна належаць прэзідэнту Літвы.

Крыху пазней, у размове з карэспандэнтам *BNS*, Лені Фішэр сказала, што вакол беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі неабходна стварыць «лепшую атмасферу», і заявіла, што сітуацыя ў краіне «не надта вясёлая», калі ў Мінску нават забараняюць газеты.

*BNS — БелаПАН*



***На здымку: беларуская сталіца напрыканцы XX стагоддзя.***

## Дэмакраты не хочуць у «палату»

**Дэмакратычныя партыі Беларусі заявілі, што не будуць удзельнічаць у выбарах у «палату прадстаўнікоў».**

Такое рашэнне было прынятае ў мінулы аўторак на паседжанні Кансультацыйнага савета дэмакратычных партыяў. У пастанове пра адносіны да магчымых выбараў у «палату прадстаўнікоў» гаворыцца: *«Мы, упаўнаважаныя прадстаўнікі палітычных партыяў Беларусі, ад імя сваіх арганізацыяў заяўляем аб нашай прыхільнасці прынцыпам дэмакратыі, найважнейшым з якіх з'яўляецца прынцып падзелу ўладаў. Мы пацвярджаем сваё непрызнанне гвалтоўна ўведзенай «канстытуцыі» 1996 года, якая парушае гэты прынцып, дазваляючы прэзідэнту прызначаць кіраўнікоў і іншых адказных асоб у іншых галінах улады, аднаасобна выдаваць акты, якія замяняюць сабою законы. У сувязі з гэтым мы заяўляем аб немагчымасці ўдзелу партыяў, якія мы прадстаўляем, у любых выбарах у «палату прадстаўнікоў», якая ў адпаведнасці з «канстытуцыяй» 1996 года не мае ніякіх паўнамоцтваў».*

Пад гэтым дакументам паставілі подпісы прадстаўнікі чатырох партыяў: сацыял-дэмакратычнай «Народнай Грамады», Беларускага Народнага Фронту, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай партыі працы. Пастанову таксама падпісалі старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэта Генадзь Карпенка і старшыня ВС Сямён Шарэцкі.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Яшчэ адзін палітэмігрант

**Масавыя парушэнні беларускімі ўладамі правоў чалавека змушаюць некаторых нашых суайчыннікаў пакідаць межы сваёй краіны.**

Днямі ў Чэхіі папрасіў палітычнага прытулку 26-гадовы мінчанін Сяргей Градоўкін. Ён выпускнік юрыдычнага факультэта БДУ. У свой час быў адным з заснавальнікаў «Задзіночання беларускіх студэнтаў» і партыі аматараў піва, у якой ён узначальваў выканаўчы камітэт. У 1995 годзе Градоўкін балатаваўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета. Ён быў пастаянным удзельнікам усіх апазіцыйных маніфестацыяў. Як нам удалося высветліць, напярэдадні Новага года С.Градоўкін выехаў у Польшчу, адкуль і перабраўся ў Чэхію.

Нагадаем, што Сяргей стаў чацвёртым грамадзянінам Беларусі, які папрасіў палітычнага прытулку ў гэтай сярэднееўрапейскай краіне. Летась падобныя просьбы чэшскім уладам накіравалі актывісты БНФ з Віцебска Уладзіслаў Яндзюк і Сяргей Юрчанка, а таксама сябра «Маладога Фронту» Аляксей Коваль, які за ўдзел у вясенняй маніфестацыі ў абарону незалежнасці быў асуджаны на 2 гады папраўчых работ і вымушаны быў эміграваць за мяжу.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Польшча адгарадзілася «ўсур'ёз і надоўга»

**Новыя правілы ўезду ў Польшчу, якія дзейнічаюць ужо месяц, не будуць змененыя.**

Хоць беларускае МЗС і заяўляла, што паспрабуе дамовіцца з палякамі, каб спрасціць уезд для нашых грамадзянаў на тэрыторыю Польшчы, аднак у бліжэйшы час ніякіх зменаў чакаць не даводзіцца. Ліберальны парадак уезду можа быць устаноўлены толькі пасля таго, як паміж дзвюма нашымі краінамі будзе заключана дамова аб рэадмісіі (вяртанні нелегалаў). Такое пагадненне, напрыклад, падпісала з Польшчай Украіна, і яе грамадзяне перасякаюць польскую мяжу без праблем.

У свой час палякі настойліва прапаноўвалі і Беларусі падпісаць дамову аб рэадмісіі, але Мінск адмаўляўся. І толькі цяпер, калі Польшча ўвяла новыя правілы, беларускі бок выказаў зацікаўленасць як мага хутчэй распачаць перамовы наконт падпісання такога пагаднення. Але зразумела, што заключана яно будзе не хутка. І не толькі таму, што падобныя дакументы патрабуюць шматлікіх узгадненняў. Галоўная праблема ў тым, што Беларусь не мае дамовы аб рэадмісіі з іншымі суседзямі, у прыватнасці з Расіяй. Калі заключыць дамову толькі з Польшчай, то нам давядзецца прымаць высланых палякамі нелегальных імігрантаў, але адправіць іх назад у Расію мы не зможам.

Такім чынам, дарэмна спадзявацца, што мяжа з Польшчай стане для грамадзянаў Беларусі больш «празрыстай». Чакаць гэтага давядзецца доўга.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Хочаш наведаць Амерыку?

**Як паведаміла інфармацыйная служба амерыканскай амбасады, з 1 лютага павялічваецца кошт консульскіх паслуг.**

Падаючы дакументы на атрыманне амерыканскай візы, цяпер трэба будзе заплаціць амерыканскай дзяржаве 45 долараў ЗША. Гэтыя грошы ідуць на аплату працы супрацоўнікаў амбасады, якія разглядаюць вашыя паперы, а кошт візы аплачваецца асобна (30 USD). Калі амбасада раптам не захоча выдаць візу нейкаму грамадзяніну, то грошы за консульскія паслугі яму ўжо не вернуць.

Збор за консульскія паслугі быў уведзены амерыканскім урадам у 1994 годзе і дагэтуль складаў 20 долараў. Але Дзяржэпартамент ЗША вырашыў зэканоміць грошы амерыканскіх падаткаплацельшчыкаў, і цяпер усю працу пасольскіх клеркаў будуць аплачваць тыя, хто пажадае наведаць ЗША.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Шарамета і Завадскага ўмоўна пасадзілі

**Павел Шарамет і Дзмітрый Завадскі прызнаныя судом вінаватымі ў незаконным перасячэнні беларуска-літоўскай мяжы. Журналістаў ОРТ пакаралі ўмоўным турэмным зняволеннем. Шарамету далі два гады, Завадскаму — на 6 месяцаў менш. Выпрабавальны тэрмін, на працягу якога ім будзе пагражаць сапраўднае зняволенне, — год.**

Прысуд быў вынесены ў мінулую сераду ў другой палове дня. Паміж заключным словам Шарамета, якое прагучала раніцай, і зачытваннем вердыкту прайшло амаль пяць гадзінаў. Стольки спатрэбілася судовай калегіі ў складзе старшыні В.Казакевіча і народных засядацеляў Я.Тарашкевіч і Я.Нінька, каб прызнаць журналістаў вінаватымі, вызначыць ім пакаранне і выказаць рашэнне на паперы. Як пасля сцвярджаў журналістам суддзя Віталь Казакевіч, ціску на яго ніхто з кіраўніцтва не аказваў, за сваё рашэнне яму будзе не сорамна. Ён сказаў, што справа была не вельмі складанай. *«Цяжкасці былі звязаныя хутчэй з увагай, якую надавалі справе журналісты, асабліва ОРТ, якое паказвала падзеі ў судзе тэндэнцыйна»*, — лічыць суддзя. Між тым, ягоныя памочнікі ў ацэнках не былі такімі катэгарычнымі. Народны засядацель пенсіянер Яўген Нінька, у прыватнасці, заявіў, што тэлевізіёншчыкі яму працаваць *«не перашкаджалі»*. І ўвогуле ён вельмі спачувае журналістам, але *«..што зробіш»*. Трэці член судовай калегіі бібліятэкар Яўгенія Тарашкевіч шчыра паведаміла журналістам, што жыхары Ашмянскага раёна часта *«ходзяць праз мяжу ў Літву»*, але, як кажуць *«не пойман — не вор»*. Тое, што журналісты папаліся, — гэта іх праблемы, лічыць жанчына, хаця па чалавечы ёй Шарамета і Завадскага шкада. *«Але ж мы не пасадзілі іх у турму»*, — апраўдвалася Тарашкевіч.

Каментуючы гэтую «міласць», Павел Шарамет заявіў, што ў заключным слове ён спецыяльна не прасіў суд аб спагадзе, паколькі *«у несвабоднай краіне прасіць свабоду ў рабоў недапушчальна»*. Як лічыць Шарамет, суддзя сапраўды не шкадуе аб вынесеным прысудзе — *«такі ўжо гэта чалавек»*, — а вось народным засядацелям, пэўна, вельмі сорамна. *«Як яны будуць глядзець у вочы людзям, не ведаю»*, — кажа Шарамет. Ён перакананы: *«Прысуд вынеслі не суддзі, а прэзідэнт Лукашэнка. Зараз усяму свету стала бачна, што праўды і справядлівасці ў гэтай краіне няма і не будзе»*.

Адвакаты Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага падалі касацыйную скаргу ў калегію па крымінальных справах Гродзенскага абласнога суда. Абарона патрабуе адмены рашэння Ашмянскага суда і апраўдання журналістаў ОРТ.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Віцебскія фронтаўцы зноў за кратамі

**За правядзенне несанкцыянаванага пікета актывісты Віцебскай рады БНФ Барыс Хамайда і Юрый Мароз атрымалі па 10 сутак арышту.**

Апазіцыянераў арыштавалі ў цэнтры горада, дзе яны распаўсюджвалі незалежную прэсу. Побач з імі знаходзіўся плакат, на якім былі напісаныя словы Янкі Купалы: *«Беларусь — наш дом, наш храм, наша Бацькаўшчына-маці»*. Міліцыянты склалі на Хамайду і Мароза адпаведны пратакол, а суддзя Святлана Туфан хутка і лёгка прысудзіла кожнаму па 10 сутак зняволення.

Барыс Хамайда з'яўляецца своеасаблівым віцебскім рэкардсменам па колькасці арыштаў і штрафаў за палітычную дзейнасць. У сярэдзіне студзеня ён ужо адседзеў трое сутак за падобнае «злачынства». Летась Хамайду таксама каралі — трохсутачным арыштам і штрафамі на некалькі дзесяткаў мільёнаў рублёў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Пётр Краўчанка адбывае ў Токіо



**1 лютага пасол Беларусі ў Японіі Пётр Краўчанка адбывае ў Токіо. Сям'я пасла пакуль застаецца ў Мінску.**

Былы апазіцыянер адмовіўся каментаваць сваё прызначэнне на службу дыктатарскаму рэжыму і пажадаў чытачам НАВІНАЎ «дабрабыту і шчасця». Але несумненна, што шчасце напаткала самога Пятра Краўчанку. Нарэшце яму адчынілі дзверы ў дыпламатычны рай. А раней экс-міністра не пускалі нават у будынак знешнепалітычнага ведамства, не пускалі яго тады і ў рэзідэнцыю, дзе ён нядаўна быў прыняты Лукашэнкам. Да апошніх хвілінаў прэзідэнт цягнуў з падпісаннем указа, а Краўчанка выдатна трымаў выпрабавальны тэрмін. Дыпламат стварае імідж пакрыўджанага былымі аднадумцамі-апазіцыянерамі.

Цёплае месца для свайго былога апанента ўпарта выбіваў міністр замежных справаў Іван Антановіч — нягледзячы на тое, што Краўчанка ў свой час рэзка крытычна выказваўся пра яго. Напрыклад, у інтэрв'ю СВАБОДЗЕ год таму П.Краўчанка назваў прызначэнне Антановіча міністрам *«звычайнай платай за вернападданіцтва»*. Ацэньваючы прафесіяналізм свайго цяперашняга шэфа, ён адзначыў, што *«з такімі людзьмі міжнародны ізаляцыі ніколі не прарваць»*. Відаць, сваю слабасць зразумеў і сам Антановіч, які вырашыў адправіць прафесійнага дыпламата бліжэй да ўсходу сонца. Цяпер пасол Краўчанка мабілізуе свае намаганні на прарыў міжнароднай ізаляцыі. Толькі платай за што з'яўляецца ягоная пасада?

Былы намеснік міністра замежных справаў Андрэй Саннікаў сказаў, што «гэтая непрыемная падзея не была нечаканасцю». Нарэшце і Краўчанка, апошні актывіст перадвыбарчага клуба Вячаслава Кебіча, атрымаў пернік.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Палешукі не хочуць перасяляцца з зоны

**Летась 529 жыхароў Гомельскай вобласці, у тым ліку 120 дзяцей, прызнаныя інвалідамі Чарнобыля. Для параўнання: у 1993 годзе такі статус атрымалі 188 чалавек.**

Гэта сведчыць пра тое, што негатыўныя наступствы ядзернай катастрофы і праз 11 гадоў маюць тэндэнцыю да павелічэння. Ужо зразумела, што зрабіць жыццё бяспечным у забруджанай зоне немагчыма.

Між тым, многія палешукі, нават атрымаўшы кватэры ў чыстай зоне, працягваюць гадамі жыць на старым месцы. Такія факты набылі масавы характар. Прычым усё гэта адбываецца пры садзеянні службовых асобаў, адказных за адсяленне. Па фактах шматлікіх злоўжыванняў вядзецца следства.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Ганаровы юбіляр будзе ездзіць бясплатна

**70-гадовы Уладзімір Самовіч стаў ганаровым грамадзянінам Брэста.**

З 1971 па 1985 год ён быў першым сакратаром гаркама кампартыі. Як лічаць цяперашнія ўлады Брэста, менавіта ў гэты перыяд У.Самовіч «зрабіў вялікі ўклад» у развіццё горада над Бугам. Ганаровыя грамадзяне (а ў Брэсце іх жывых толькі шэсць) атрымліваюць права бясплатнага праезду на гарадскім транспарце і льготы па камунальных плацяжах.

**М.В.**

## Слонім патрабуе ад Мінска

**Сход жыхароў горада Слоніма, у якім удзельнічала больш як сто чалавек і які быў арганізаваны па ініцыятыве мясцовай структуры БНФ, прыняў рэзалюцыю з патрабаваннем да кіраўніцтва Беларусі.**

Ад імя жыхароў свайго горада аўтары рэзалюцыі запатрабавалі ад уладаў зняць забарону з газеты «Свабода», выпусціць з турмы членаў «Маладога Фронту» В.Лабковіча, А.Шыдлоўскага, В.Кабанчука і іншых палітзняволеных, а таксама аднавіць дзеянне Канстытуцыі 1994 года. *«Лічым, што найлепшым шляхам выканання гэтых патрабаванняў была б добраахвотная адстаўка прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі»*, — гаворыцца ў рэзалюцыі.

*БелаПАН*

## НТВ вяртаецца ў Віцебск

**Грамадскі камітэт «Жыхары Віцебска — за НТВ» дасягнуў сваёй мэты.**

Да настойлівых патрабаванняў грамадзян аднавіць прыпыненую каля года таму трансляцыю праграм НТВ прыслухаліся, нарэшце, і аблвыканкам, і абласное тэлерадыёаб'яднанне, і міністэрства сувязі. Уладам давялося прыняць рашэнне на карысць людзей, які змагаліся за беспярэшкоднае атрыманне патрэбнай ім інфармацыі. У лютым трансляцыя праграм НТВ у Віцебску будзе аднаўленая.

## Гродна: новыя падаткі

З 1 лютага ў Гродзенскай вобласці, згодна з рашэннем абласнога Савета дэпутатаў, уводзіцца падатак на продаж піва, вінна-гарэлачных і тытунёвых вырабаў, а таксама вырабаў з каштоўных металаў і камянёў. Стаўка падатку вызначаная ў памеры 5 працэнтаў выручкі ад рэалізацыі тавараў. Атрыманыя сумы будуць залічвацца ў бюджэты раёнаў і гарадоў вобласці, а затым 30 працэнтаў ад іх — у абласны бюджэт. Сума падатку будзе ўключана ў кошт тавараў.

*БелаПАН*

## Хельсінкскі камітэт заступіўся за рэжысёра

**Міжнародны Хельсінкскі камітэт па правах чалавека *Human Rights Watch/Helsinki* выступіў са зваротам, у якім выказваецца глыбокая занепакоенасць і абурэнне фактам збіцця беларускага кінарэжысёра Юрыя Хашчавацкага ў снежні мінулага года.**

У дакуменце адзначаецца, што Юрый Хашчавацкі — вядомы беларускі кінарэжысёр, які два гады таму зняў дакументальны фільм пра А.Лукашэнку «Звычайны прэзідэнт». У фільме Ю.Хашчавацкі паказаў беларускага прэзідэнта такім, які ён ёсць. Фільм карыстаецца шырокай папулярнасцю ў свеце, летась ён быў узнагароджаны спецыяльным прызам Берлінскага фестывалю. Але ў Беларусі «Звычайны прэзідэнт» фактычна забаронены, паглядзець яго можна толькі патаемна.

У снежні мінулага года невядомыя, уварваўшыся ў майстэрню Ю.Хашчавацкага, моцна збілі яго. Злачынцы нічога не скралі з майстэрні, таму хутчэй за ўсё напад быў зроблены па палітычных матывах, падкрэсліваецца ў звароце, накіраваным праваабаронцамі на адрас Лукашэнкі. Выканаўчы дырэктар еўрапейскай філіі Хельсінкскага камітэта Холі Картнер ад імя ўсёй арганізацыі патрабуе ад беларускага прэзідэнта прыкладці ўсе намаганні, каб знайсці і пакараць злачынцаў. Хельсінкскі камітэт таксама заклікае Лукашэнку дазволіць публічны паказ «Звычайнага прэзідэнта» ў Беларусі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Мініравалі міліцыю

**Неспакойна было днямі ў Цэнтральным аддзеле міліцыі Мінска: у будынку нібыта знаходзілася бомба.**

Такую інфармацыю міліцыя атрымала ад чалавека, які пазваніў з тэлефона-аўтамата па нумары «02». Пасля гэты мужчына, відаць, вырашыў паглядзець, як рэагуюць на ягоны званок міліцыянты — і дарэмна: паблізу Цэнтральнага РАУС яго затрымаў участковы інспектар. Дзядзька, шафёр грузавога аўтапарка, быў нападпітку. Узбуджаная крымінальная справа па ч.1 артыкула 201[1] — «хуліганства».

*БелаПАН*

## Падазроная смерць у следчым ізалятары

**У брэсцкім следчым ізалятары памёр 26-гадовы падследны, які падазраваўся ў махлярстве.**

Гэты жыхар г.Брэста пазычыў у шэрагу фірмаў і прыватных асобаў 2,5 мільярда беларускіх рублёў — нібыта для пакупкі ў адным з расійскіх банкаў 70 тысячаў долараў. Час ішоў, але грошы ён вяртаць не збіраўся. Паўтара месяца таму цярпенне крэдытораў скончылася — і хлопца ўзялі ў заложнікі. Бандыты патрабавалі ад ягонай маці заплаціць за сына выкуп у 100 тысяч долараў. Заложніка трымалі на прыватнай кватэры ў Брэсце, адтуль яго і вызвалілі супрацоўнікі абласнога камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Выкрадальнікаў узялі пад варту, але пракуратура зацікавілася і самой ахвярай. Высветлілася, што ў 1995 г. на гэтага чалавека ў Кобрыне заведзеная крымінальная справа.

Пракуратура дала санкцыю на арышт, і 21 студзеня яго змясцілі ў СІЗО. Але ў турме хлопец правёў усяго тры дні — 24 студзеня ён нечакана памёр. Па афіцыйнай версіі судмедэкспертызы, прычынай смерці стаў цыроз печані.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# «Меня использовали чиновники»

*Автор статьи в «Народной газете» извинился перед Геннадием Карпенко за то, что учавствовал в его травле*

В прошлом номере нашей газеты сообщалось о судебном заседании по иску вице-спикера Верховного Совета Геннадия Карпенко к редакции «Народной газеты». На судебном заседании журналист В.Зуев, статья которого и была предметом иска (как клеветническая и оскорбляющая честь и достоинство), показал, что материалы для этой статьи он получил от нынешнего вице-премьера В.Заметалина. Именно Заметалин направил главному редактору «НГ» М.Шиманскому записку с просьбой срочно опубликовать статью В.Зуева. Кроме того, по словам журналиста, имелась еще и резолюция самого Лукашенко, которой тот повелел привлечь юристов для возбуждения против Карпенко уголовного дела. Из этого ничего не вышло: прокуратура после проверки дала ответ, что факты, изложенные в статье Зуева, не подтвердились.

Напомним, что злополучная статья вышла в свет 2 октября 1996 г. Это произошло вскоре после того, как Лукашенко силой захватил «Народную газету», посадил в кресло главного редактора своего человека и из парламентской сделал эту газету антипарламентской. В статье В.Зуева «Пятое измерение Геннадия Карпенко» утверждалось, что в бытность мэром Молодечно он якобы занимался квартирными махинациями (незаконно «благоустроил» себя и ближайших родственников, а также раздавал квартиры «нужным людям»). Подтекст понятен: вот, мол, какие люди критикуют президента. Карпенко оспаривает эту статью в суде по всем пунктам.

Автор статьи В.Зуев обратился к Г.Карпенко с открытым письмом.

Журналист признается в том, что *«материал «Пятое измерение Геннадия Карпенко» писался на основании докладной записки за подписью руководителя очень грозного и крупного ведомства, а решение о подготовке данного материала принимали еще более высокопоставленные люди»*. Причиной этого, по мнению Зуева, были политические страсти, которые кипели в стране перед референдумом. *«Теперь я осознаю, что меня как журналиста государственного СМИ просто использовали в своих интересах отдельные не слишком чистоплотные государственные чиновники*, — пишет Зуев. — *Я теперь знаю цену их словам, обещаниям и «идеалам». Знаю, на что они готовы»*. Журналист подчеркнул: *«За достоверность того, что излагалось в его статье, должны отвечать те, кто предоставил ему эти «факты»*.

В.Зуев закончил письмо извинениями в адрес Геннадия Карпенко (за то, что принял участие в его травле, поверив далеко не тем людям, которые вообще достойны доверия).

Г.Карпенко обратился к редактору «НГ» М.Шиманскому с просьбой опубликовать это открытое письмо. *«Надеюсь, Вы любезно предоставите страницы своей газеты для чистосердечного признания и раскаяния молодого журналиста после той грязи и клеветы, которая фабриковалась и печаталась в «Народной газете» по указанию лиц, находящихся сегодня у власти»*, — пишет Г.Карпенко.

В беседе с корреспондентом газеты НАВІНЫ Геннадий Карпенко охарактеризовал статью так: *«Это была заказная политическая провакация, направленная на дискредитацию оппозиции. Это, к сожалению, стало самым излюбленным методом нынешнего режима по отношению к политическим оппонентам»*.

Следующее заседание по данному делу состоится в суде Советского района г.Минска 24 февраля. В качестве свидетелей на него вызваны В.Заметалин и М.Шиманский.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



## Малочныя чэргі ў Мінску

# Французская хвароба

«Я баюся ездзіць у гарадскім транспарце, бо ведаю, што побач са мной у тралейбусе можа стаяць хворы на сіфіліс», — піша ў лісце нашая чытачка з Мінска. Яна прызнаецца, што ў савецкія часы выпадкова захварэла — і тады яе доўга лячылі ў спецыяльнай бальніцы. «А цяпер у сына маёй суседкі гэтая паскудная хвароба, — абураецца жанчына, — дык ён спакойна ездзіць у дыспансер, там яму і яшчэ сотням такіх даюць укол, а потым яны вольна ходзяць па горадзе. А раптам яны ўсіх пазаражаюць?»

Сапраўды, праблема ёсць. Таму карэспандэнт накіраваўся ў Мінскі гарадскі скурна-венералагічны дыспансер, каб высвятліць сітуацыю і даведацца, як медыкі змагаюцца з сіфілісам сёння.

## Эпідэмія затаілася

Як паведаміў галоўны спецыяліст міністэрства аховы здароўя па венералогіі прафесар Леанід Барабанаў, летась у Беларусі ўпершыню за апошнія дзесяць гадоў зарэгістравана зніжэнне колькасці хворых на сіфіліс. Усяго ў лячэбныя ўстановы звярнулася 20.344 хворых з дыягназам «сіфіліс», і гэта на 6% менш, чым у 1996 годзе.

Увогуле, па словах Л.Барабанава, сіфіліс у Беларусі развіваецца цыклічна. Спачатку на працягу прыкладна 8-9 гадоў колькасць хворых стабільна павялічваецца, а потым 11-12 гадоў памяншаецца. Аднак цяперашняя сітуацыя трывожная, сцвярджае Л.Барабанаў: з 1988 па 1996 колькасць хворых на сіфіліс у Беларусі павялічылася катастрафічна — у 152 разы, і амаль немагчыма за наступныя 10 гадоў істотна зменшыць гэтую лічбу.

## Французская хвароба

Сіфіліс, або люэс, або францы, — адна з найбольш небяспечных венерычных хваробаў. Ёй можна хварэць з года ў год і нават не здагадвацца пра гэта. Калі сіфіліс не пачаць лячыць адразу, гэта можа прывесці да цяжкіх наступстваў, папярэджвае галоўны ўрач Мінскага гарадскога скурна-венералагічнага дыспансера Юрый Салук.

Амаль заўсёды заражэнне сіфілісам адбываецца пры палавым кантакце з хворым партнёрам. Праўда, зрэдку маленькія дзеці заражаюцца ад хворых бацькоў — але гэта адзінкавыя выпадкі.

Гэтая хвароба — вельмі каварная. Першыя тры-чатыры тыдні пасля заражэння сіфіліс амаль ніяк не праяўляе сябе: не бывае ні выдзяленняў з палавых органаў, ні боляў. І потым, калі на палавых органах з'яўляецца невялічкая язвачка, — нічога не баліць, і ў хуткім часе ўсё праходзіць. На гэтай стадыі захворвання хваробу не выявіць і аналіз крыві.

Яшчэ праз два-тры тыдні лабараторнае даследаванне крыві ўжо можа ўстанавіць сіфіліс, а на целе можа з'явіцца высыпка ў выглядзе невялікіх плямаў. Калі тэрмінова не пачаць лячэнне, хвароба пяройдзе ў апошнюю, трэцюю стадыю: разбураюцца тканкі мозгу і касцей. На гэтай стадыі магчымыя таксама паражэнні ўнутраных органаў і нервовай сістэмы.

Медыцына пайшла наперад, і апошні раз такія запушчаныя формы сіфілісу сустракаліся ў пасляваенныя часы. І ўсё ж сіфіліс — гэта вельмі сур'ёзная хвароба, і лячыць яе трэба абавязкова, падкрэслівае Ю.Салук.

## Каб не захварэць

Лепшы спосаб засцерагчыся і не захварэць ні на сіфіліс, ні на СНІД, ні на якія іншыя венерычныя хваробы — гэта мець сталага палавога партнёра, сцвярджае Леанід Барабанаў. Людзі заражаюцца сіфілісам найперш у выніку неразборлівых сувязяў, і ў апошні час такое вельмі часта сустракаецца сярод падлеткаў.

Распаўсюджанню венерычных хваробаў, у тым ліку і сіфілісу, на думку прафесара Барабанава, спрыяе цяжкое эканамічнае і сацыяльнае становішча краіны, беспрацоўе, нізкі ўзровень палавой адукацыі, п'янства і алкагалізм. У эатак званыя «групы рызыкі», сярод якіх венерычныя захворванні распаўсюджаныя часцей за ўсё, уваходзяць прастытуткі, гомасексуалісты, наркаманы. У апошнія часы дадатковай крыніцай інфекцыі сталі таксама нелегальныя мігранты з паўднёвых краінаў.

Абодва мае суразмоўцы сцвярджаюць, што сіфілісам практычна нельга заразіцца ў грамадскім транспарце, у лазні, пры сяброўскіх пацалунках і нават паціскаючы руку хвораму. Аднак у літаратуры зафіксаваныя выпадкі так званага бытавога заражэння. Таму надзвычай важную ролю адыгрывае выкананне правілаў асабістай гігіены.

Добрым памочнікам будзе прэзерватыў. Калі вы ўсё ж мелі стасунак з чалавекам, у чыім здароўі не ўпэўненыя, лепш за ўсё звярнуцца ў кабінеты індывідуальнай прафілактыкі, якія дзейнічаюць пры скурна-венералагічных дыспансерах і ягоных філіялах. Добра зробленая прафілактыка істотна памяншае рызыку венерычнага захворвання.

## Калі вам не пашанцавала

Калі з'явіліся нейкія падазрэнні на венерычнае захворванне — варта звярнуцца да лекара.

Неабавязкова адразу ісці ў скурна-венералагічны дыспансер: першапачатковы дыягназ мужчынам паставіць уролаг, жанчыны могуць наведаць жаночую кансультацыю. Але не трэба палохацца і дыспансера: Юрый Салук сцвярджае, што ніхто яшчэ ў дыспансеры нічым не заразіўся.

Пры дыспансеры і яго філіях існуюць таксама кабінеты ананімнага абследавання на венерычныя захворванні для тых, хто баіцца раскрыць сваё імя. Але гэтая паслуга платная: поўны курс абследавання каштуе для мужчыны каля 400 тысячаў, а для жанчын — больш за 600 тысячаў рублёў.

Калі медыкі паставілі грозны дыягназ «сіфіліс» — ёсць адзін шлях: лячыцца ў дыспансеры. Усе спадзяванні на самалячэнне ці дапамогу знаёмых абсалютна марныя: вылечыць можа толькі спецыяліст. Дарэчы, ухіленне ад лячэння венерычнага захворвання разглядаецца як злачынства, і арт.113 Крымінальнага кодэкса прадугледжвае за гэта штраф, папраўчыя работы ці нават пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў. Такое ж пакаранне чакае і таго, хто, ведаючы пра сваё венерычнае захворванне, усё ж уступае ў палавы кантакт.

Як паведаміў Юрый Салук, на сённяшні дзень курс лячэння ад сіфілісу займае каля месяца. Знаходзіцца ўвесь гэты час у дыспансеры неабавязкова: можна проста прыходзіць на ўколы. У залежнасці ад формы сіфілісу колькасць ін'екцый вагаецца ад 1-2 у дзень да 1 у тыдзень. Такім чынам лечыцца 70% хворых. У стацыянары лечацца толькі тыя, каму па стане здароўя патрэбны пастаянны медычны нагляд, а таксама людзі, якія спрабавалі пазбегнуць лячэння.

Пасля заканчэння курсу лячэння пацыент знаходзіцца на ўліку яшчэ доўгі час, бо тэарэтычна магчымыя рэцыдывы хваробы. За былым сіфілітыкам назіраюць іншыя спецыялісты: тэрапеўт, акуліст, неўрапатолаг. І толькі калі яны прызнаюць чалавека практычна здаровым, можна гаварыць пра ягонае выздараўленне.

Аднак яшчэ адна небяспека сіфілісу ў тым, што ён не пакідае імунітэту: захварэць можна і другі, і трэці раз.

## Горад і вёска

Раней венерычныя захворванні былі бядой толькі жыхароў вялікіх гарадоў, і чым большы горад — тым вышэйшы ўзровень захворванняў. Але цяпер усё змянілася: як паведаміў Леанід Барабанаў, па тэмпах росту венерычных захворванняў сельскай мясцовасці пераганяюць гарады на 10-15%. Прафесар тлумачыць гэта, з аднаго боку, зніжэннем ролі маральных забаронаў, развіццём камунікацый, дзякуючы чаму вёска па ладзе жыцця наблізілася да горада. Але ўзровень медыцыны і агульнай санітарнай асветы там значна ніжэйшы. Паказальна, што ў вёсках, якія стаяць блізка да аўтамабільных трасаў на Маскву і на Варшаву, нашмат больш хворых на сіфіліс, чым у іншых мясцовасцях. Сітуацыю аналізавала спецыяльная камісія, і высветлілася, што інфекцыю разносяць прастытуткі, якія звычайна «працуюць» на трасе, а ў вёскі прыходзяць каб адпачыць.

Такім чынам, ні ў Мінску, ні ў невялічкай вёсцы ад венерычных захворванняў ніхто не застрахаваны. І варта запомніць і выконваць рэкамендацыі медыкаў, каб не сустракацца з імі ўжо ў якасці пацыента. Усё залежыць ад нас саміх.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

ДАГЕРРОТИП

# Государственные беседы

*Сцены из жизни интеграторов*

**Семен БУКЧИН**

Позднее средневековье. Московский царь Борис принимает в Грановитой палате минского князька Луку. На столе не прибрано и даже грязно. Видно, что пили и закусывали всю ночь. Халаты, в которых сидят правители, запачканы винными и сальными пятнами. Оба устали, обоих клонит в сон.

— Ну что, бачка, бум объединяться? — лениво цедит Лука, обмакивая огурец в сметану.

— Бум... Бум..., — трясет кудлатой нетрезвой головой Борис и вдруг вскидывается: — А чего это ты меня бачкой зовешь? Что я тебе нехристь какой?

— Да не тряси ты патлами-то! — нехотя урезонивает его Лука. — Это я у друга нашего, хана Нурсултана, научился. Он тебя бачкой зовет, в смысле батюшкой.

Борис трахает кулаком по столу:

— Ему можно! Он татарин! А ты не моги! Поскольку я с тобой еще не интегрировался!

— Дак и я о том же, — отзывается Лука. — Сколько можно тянуть-то? И народ твой московский за меня, сам знаешь...

— Думаешь, я не вижу, куда ты, хитрован, метишь? — закипает Борис. — На мое место, в Кремль заришься, на престол мой!

— Зарюсь и не скрываю того, — нахально отвечает Лука и вонзается крепкими зубами в баранью ногу. — Ты ведь, бачка, больной... Шунтированный... Стало быть, долго не протянешь. А кто вокруг тебя? Враги! Жидовье одно! А меня уже лидером мирового славянства объявили. Выходит, мне самое место в Кремле. Твоим наследником буду.

Борис качает головой:

— Говорили мне добрые люди, что ты жулик.. Но чтоб такой наглый?.. Ты ведь понимать должон: у нас на Москве не то что у вас в Минске. У нас демократия настоящая. У нас царь — должность выборная. А уж объединенного, так сказать, царя должно всем миром, то есть населением объединенных держав избирать.

— Ой, держите меня! Ой, уморил! — хохочет Лука. — Это ты со своими банкирами и всякими рок и поп-звездами выборы демократические проводил? Право слово, уморил!

Мгновенно делает серьезное лицо и решительно рубит воздух рукой:

— В общем так, бачка! Сначала проводим выборы объединенного царя, в рамках существующего уже Союза двух наших держав. Выбираем меня, естественно! А на второй день я уже провожу полное наше объединение в одно государство!

— Дак ведь конституция наша не позволяет насчет выборов, — возражает Борис. — Ты ведь гражданин чужого государства. Потому как можешь избираться у нас на царство?

— Во- первых, не чужой я вам! Свой! Славянин я, русак природный!— чуть ли не кричит Лука. — У нас уже есть Союз Московского царства и Минского княжества, как бы одно государство, только неполное еще. Так ты и возьми, подработай свою конституцию! А мы свою мигом приспособим! Вот и получится, что любой гражданин наших союзных стран может быть избран царем. Любого, конечно, не изберут... Тут уж мы с тобой, можно сказать, договорились.

Борис отрицательно качает головой:

— Нет, брат Лука! Тут наши бояре в Думе согласия не дадут! Сначала ты вступай в наше царство на правах губернии Минской. А потом уж, как положено, избирайся демократическим путем на престол.

Лука ухмыльнулся:

— Дурака нашел! Я тебе свои земли, кровное свое суверенное государство отдам, а ты потом со своими боярами возьмешь да и обманешь меня. Сфальшивишь с выборами! Не сделаешь меня царем! И что тогда? Губернаторишкой жалким я у тебя буду? А потом ты и с этого кормления меня сковырнешь. Знаю я тебя лукавого! Нет, бачка, сначала выборы и я царем, а потом уж полное объединение!

— Как знаешь, — равнодушно говорит Борис и добавляет: — Тогда я, пожалуй, с Нурсултаном объединяться буду.

— С нехристем этим? Славянские интересы продаешь? — взвивается Лука.

— А чего ты так кипятишься? — спокойно говорит Борис. — Нурсултан, хотя и нехристь, но человек правильный и, в отличие от тебя, демократический. Вон какой план у него замечательный: и общее экономическое пространство, и свободное пересечение границ, и полная свобода печати... Не то что, кстати, у тебя... И царь у нас будет демократический, попеременный: один год нихний человек, другой — наш. Не то что у тебя — пожизненная диктатура. У нас, брат, все культурно, цивилизованно будет!

Лука придвигается к Борису и напряженно смотрит ему в глаза.

— Вот как ты заговорил, бачка! Забыл, кто твой первый друг на западе? Забыл, что Литва и разные чухонцы от тебя давно уже отложились? Что хохлы пограничными валами от царства твоего отгородились? И для твоих купцов, для торговлишки твоей мое государство единственный коридор! А ежели я с ляхами сойдусь? С НАТО подружусь и вступлю даже в эту богопротивную организацию, что ты тогда запоешь?

Борис испуганно-виновато захлопал глазами.

— Ну что ты, что ты, Лукасик? — ласковым голосом заговорил он. — Успокойся! Это я так, пошутил! Какой у меня, в самом деле, может быть союз с нехристем? Ты мой первый и вернейший союзник!

— То-то! — сурово промолвил Лука. — А с Нурсултаном я сам разберусь. Когда стану царем на Москве, тогда призову его к себе, решать буду лично вопрос с присоединением его ханства к нашему государству. Как всякий нехристь, Нурсултан должон свое подначальное положение сознавать.

— Неужто, империю замыслил? — в сладостно-жутком восторге прошептал Борис.

— Ее, матушку, — торжественно ответил Лука. — Только времена нонче такие, что империю хоть без какой-то демократии, а не создашь... Трудности необычайные...

— Ну, тогда благословляю тебя, Лукасик, — шептал Борис сквозь слезы умиления и мелко крестил Луку. — Ты уж, брат, постарайся, однако, чтобы и видимость демократии какой-то соблюсти... Ну, журналистов там своих не забижай шибко... И прочее...

Лука не отвечал ему. Он стоял у окна и жадно глядел на просыпающуюся Москву сорока сороков. В воздухе плыл утренний благовест...

*— Душа здесь у меня каким-то горем сжата,*
*И в многолюдстве я потерян, сам не свой.*
*Нет! Недоволен я Москвой.*
*— Москва, вишь, виновата.*
*— Подальше от него.*
*(А.Грибоедов, «Горе от ума»)*

# Долгая дорога

## *Почва уже подготовлена*

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



Понятие «интеграция» давно стало краеугольным камнем современной белорусской политики. Однако значение этого слова приобрело у нас свою специфику. Исходя из нынешних политических реалий, следует определить этот термин как «набор пропагандистских усилий, направленных на повышение личной популярности главы государства». Или же «стартовая площадка для выхода на политическое поле соседней страны главного белорусского олимпийца». Толкования такого рода нашли очередное подтверждение в ходе последней поездки Лукашенко в Москву.

### Развлекательная программа

В прошлую пятницу вечером, после «Панорамы», распорядок Белорусского телевидения предусматривал следующее: «Смеяться — не грех». Развлекательная программа «Банка комиксов». Уж не знаю, при чем здесь комиксы, но, включив в означенное время телевизор, я увидел на экране изрядно надоевшее лицо самого популярного шоумена БТ.

Надо признать, что развлекательная программа на сей раз получилась довольно пресной (возможно, последнее слово уместнее в данном контексте писать с двумя «с», поскольку это была пресс-конференция, которую Лукашенко устроил в Москве). Ничего нового и интересного, по большому счету, сказано не было: все те же вариации на излюбленную старую тему пылких чувств братства и единства Беларуси и России. *«Мы ведь русские люди!»* — широко улыбнулся глава белорусского государства жителям соседней страны. Как достижение московской встречи Лукашенко отметил договоренности об общем бюджете (пусть он пока и невелик, но главное, дескать, основы заложены, — тем более, что общий бюджет двух суверенных государств — явление действительно беспрецедентное) и о координации оборонной и внешней политики. (Можно себе представить эту «координацию»: теперь, наверное, Москва и шагу не сделает без согласования с Лукашенко. В застойные времена был анекдот, где Сталин спрашивает у маршала Жукова по поводу плана военной операции: «А вы посоветовались с полковником Брежневым?») Исполком Высшего совета, возглавляемый белорусским диктатором, Лукашенко ласково назвал *«наше общее правительство»*.

Однако в самом начале своего визита, отвечая в аэропорту на вопросы журналистов, Лукашенко однозначно заявил, что на переговорах в Москве не будет идти речи об объединении Беларуси и России в одно государство, т.к. Россия к этому не готова.

### Монополия на интеграцию

Шаг за шагом в своих интеграционных потугах Лукашенко старательно готовит почву для межгосударственного объединения. Именно готовит почву — не больше и не меньше. Эта почва уже, собственно, подготовлена, — обильно унавожена и вспахана. Каждый раз, находясь в Москве, Лукашенко пашет ее все глубже. При этом он ревниво охраняет свою делянку от посторонних. Недаром Лукашенко резко воспротивился инициативам президента Казахстана Н.Назарбаева об углублении интеграции внутри «четверки». В ответ Лукашенко предложил Казахстану и Киргизии, если они хотят более глубокой интеграции, присоединиться к договору между Беларусью и Россией. Иными словами: монополия на интеграцию принадлежит Лукашенко, и точка! Итогом чего и стала бесплодность (если не считать привычный пропагандистский треп) московского саммита.

Конечно, Лукашенко понимает, что среднеазиатские страны к единому российско-белорусскому государству вряд ли присоединятся хоть когда-либо в будущем. Поэтому они мало его интересуют даже на перспективу. А вот интеграция с Россией его интересует очень живо. Белорусская государственность нужна Лукашенко лишь до тех пор, пока его заманчивые мечты о Кремле не приобретут сколько-нибудь реальные очертания. На настоящий момент даже Лукашенко, со своей явно завышенной самооценкой, сознает, что, попросту говоря, ловить ему в России нечего. Поэтому пока он предпочтет синицу в руках, коей для него является Беларусь, двуглавому орлу в небе. И будет (до подходящего момента) оберегать эту синицу, чтобы хищный мутант ненароком ее не сожрал. А попутно объяснять такую ситуацию отсутствием у орла аппетита, т.е. сваливать вину за задержку интеграции на Москву (*«Россия не готова к объединению»*).

### Самая советская республика

Судя по всему, Лукашенко верит, что после «задержки интеграции» родится столь желанный для него результат. Подходящий момент, которого ожидает Лукашенко, наступит скорее всего, когда российский президент Ельцин уйдет (в той или иной форме) со своего поста. Вот тогда, в переходный период, в «смутное время», и можно будет попробовать в мутной воде поймать свою рыбку. А пока нужно укреплять свой режим в Беларуси и представлять его как образец для России. *«Может быть, Беларусь и самая советская республика из всех стран бывшего Союза — но в лучшем смысле»*, — заявляет Лукашенко. В самом деле: чего тут стесняться — гордиться надо. Ясно, что за поддержку демократов Лукашенко бороться бесполезно. В Кремль он может въехать только в качестве главного интегратора, на волне ностальгии по Советскому Союзу. Потому эту волну он постоянно гонит. Согласно соцопросам, у тех граждан Беларуси, которые считают себя сторонниками объединения с Россией в одно государство (равно как и у сторонников восстановления Советского Союза), Лукашенко пользуется огромной популярностью: и в той, и в другой группе 65% считают

# З-пад шыбеніцы маскоўскай

## *2 лютага — 160 гадоў з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага*

**Уладзімір АРЛОЎ**

**«Дальтоніку няма сэнсу шукаць сінюю птушку», — падумаў я, калі чытаў нядаўна сучасную публікацыю пра Кастуся Каліноўскага. Яе аўтар яўна думае, што «выкрыў» у Каліноўскага служэнне чужым палітычным інтарэсам — і гэтым самым зрабіў беларусам паслугу... Аднак ёсць гістарычныя факты, у якіх не стане сумнявацца ніхто.**

### Факты

Дакументы сведчаць, што кіраўнік паўстання 1863—1864 гадоў нарадзіўся ў вёсцы Мастаўляны Гарадзенскага павета (цяпер у Беластоцкім ваяводстве Польшчы) і паходзіў з беларускага шляхецкага роду герба «Калінава». Кастусёў бацька валодаў ткацкай фабрыкай, а пазней і фальваркам Якушоўка паблізу мястэчка Свіслач тагачаснага Ваўкавыскага павета. Там, у Свіслачы, будучы правадыр інсургентаў скончыў павятовую вучэльню. Вялікі ўплыў меў на яго старэйшы брат Віктар, які вучыўся ў Маскоўскім універсітэце і па даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі вывучаў старадаўнія беларуская рукапісы.

У 1856-м Кастусь прыехаў у сталіцу Расійскай імперыі, адкуль праз пяць гадоў вярнуўся ў родныя мясціны з дыпломам юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, навуковай ступенню кандыдата права і цвёрдым намерам прысвяціць жыццё вызваленню Бацькаўшчыны.

Ён стварае ў Горадні і Гарадзенскай губерні нелегальную рэвалюцыйную арганізацыю, выдае разам з сябрамі першую беларускую рэвалюцыйна-дэмакратычную газету «Мужыцкая праўда», большасць матэрыялаў у якой піша сам, а ўвосень 1862 года ўзначальвае камітэт, што рыхтуе вызвольнае паўстанне на абшары былога Вялікага княства Літоўскага. Каліноўскі стаіць на чале найбольш паслядоўных рэвалюцыянераў, якіх — у адрозненне ад лібералаў («белых») — называлі «чырвонымі». 24-гадовы Кастусь — прыхільнік сацыяльнай роўнасці, перадачы зямлі сялянам, самавызначэння беларусаў і літоўцаў і стварэння народнай дзяржавы, заснаванай на дэмакратычным досведзе ЗША, Англіі і Францыі. «Белыя» ж лічаць сваёй галоўнаю задачай аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, што падаграе канфлікт паміж Вільняй і Варшавай.

Пасля пачатку паўстання «белым» удаецца адхіліць Каліноўскага ад кіраўніцтва. Ён становіцца паўстанцкім камісарам Гарадзенскай губерні, але напрыканцы лета 1863 года зноў узначальвае віленскі паўстанцкі цэнтр, які ў гэты час называюць «чырвоным жондам» (урадам).

### Смерць

Але паўстанне ў Беларусі на той час ужо задыхалася. Адзін з арыштаваных — камісар Магілёўскай губерні Вітаўт Парфіяновіч — выдаў Каліноўскага, які жыў у Вільні пад імем Ігната Вітажэнца. Жандары абяцалі яму палёгку, калі ён назаве некаторыя імёны і адрасы. Кастусь адказаў ім словамі, што надзіва актуальна гучаць і цяпер: *«Калі грамадская шчырасць з'яўляецца дабрачыннасцю, то шпіёнства апаганьвае чалавека. Усведамленне гонару, уласнае годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці іншым шляхам».*

Ваенна-палявы суд вынес пастанову: пакараць кіраўніка інсургентаў смерцю на шыбеніцы. Публічная кара адбылася 22 сакавіка 1864 года на гандлёвай плошчы Лукішкі ў Вільні. Ужо на краі жыцця, падчас чытання прысуду, калі прагучалі словы «дворянин Калиновский», — ён выгукнуў: *«У нас няма дваранаў, у нас усе роўныя!»*

У «Северо-Западном крае» былі тады пакараныя васемнаццаць з паловаю тысяч паўстанцаў. 128 змагароў асудзілі на расстрэл і на шыбеніцу, 853 чакала катарга, 11.502 — высылка... Кожны з іх варты нашай памяці.



Braty maje, muzyki rodnyje.
Z pad szubienicy maskouskaj
prychodzic mnie za was pisać,
i może raz astatni. Horko
pakinuć ziemielku radnuju
i Ciebie, darahi moj narodzie.
Hrudzi zastohnuć, zabolić
serce, — no nie żal zhinuć za
twaju prawdu. —
Pryjmi narodzie pa szczyraje
majo słowo predśmiert-
noje, bo jeno jak z taho świeta
tolko dla twaho dabra
napisano. — Bratky
Niemasz bolszaho szcza-
ścia na hetom świeci, jak kali

*Кастусь Каліноўскі. 1863 г. «Ліст з-пад шыбеніцы». Аўтограф.*

### Хлусня

Пасля забівалі ягоную памяць. У 30-я гады савецкі гісторык Самуіл Хаімавіч Агурскі абвяшчаў паўстанцкага правадыра і «міфічным героем», і «польскім шавіністам». У часы майго студэнцтва жывое ўсабленне тагачаснага гістарыяграфічнага афіцыёзу прафесар Лаўрэнцій Сямёнавіч Абэцэдарскі называў на сваіх лекцыях Каліноўскага «нацыянальным идолом», якога нам, беларусам, спрытна падсунулі палякі. Гэтым гісторыкам бальшавіцкага гарту не падабаліся ні сацыяльнае паходжанне героя, ні газета «Мужыцкая праўда», ні тое, што верай нашых «дзядоў-прадзедаў» ён лічыў уніяцтва...

Часам спрабую ўявіць, што рабіла б тая ці іншая гістарычная асоба, каб прачытала «адкрыцці» літаратараў ці вучоных мужоў. Хтосьці зайшоўся б у гамерычным рогаце. Камусьці захацелася б глынуць віскі без содавай і хутчэй вярнуцца ў свой час. Мураўёў-Вешальнік з памагатымі ў нашым выпадку мог бы адно задаволена пацерці рукі: мауляў, а мы вас хіба не вучылі, што на вашых «исконно русских» землях гэтае паўстанне ўсяго толькі «польская интрига»?

А Каліноўскі... Даведаўшыся, што ён нібыта служыў польскай нацыянальнай ідэі, Каліноўскі, відаць, спакойна параіў бы зазірнуць ва ўспаміны сваіх сучаснікаў — і найперш не сяброў, а ворагаў, каго ніяк нельга западозрыць у прычэсванні свайго героя на беларуска-літвінскі капыл.

І тады ў Якуба Гейштара, пераемніка Каліноўскага на пасадзе кіраўніка віленскага паўстанцкага цэнтра, мы прачытаем, што Кастусь быў *«адданы душой і сэрцам народу і думаў пра самастойнасць Літвы»*. А ў расійскага генерала Васіля Фёдаравіча Ратча — знойдзем, што Каліноўскі разумеў тое, як небяспечна давяраць Варшаве будучы лёс Літвы, і *«настойчиво проводил идею о самостоятельности Литвы, требовал права литвинам самим собою распоряжаться».*

Мог бы запытацца Каліноўскі і пра тое, навошта ж яму, служачы польскім нацыянальным інтарэсам, упарта дамагацца перадачы ў падпарадкаванне Вільні тагачаснага Беластоцкага ваяводства, дзе жылі пераважна беларусы. Альбо, напрыклад, пра тое, чаму ў сакавіку 1863 года Варшава адхіліла ад улады Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з Каліноўскім і замяніла яго Выканаўчым аддзелам Літвы, які пачаў з таго, што адмяніў усе пастановы сваіх папярэднікаў.

### Тыя самыя камеры

Ну а звяртаючыся да чытачоў, Каліноўскі — напэўна, у стылі яго ных адозваў у «Мужыцкай праўдзе» — сказаў бы: *«Дзецюкі, браты мае родныя! Ды прачытайце вы мой запавет, дзеля дабра вашага складзены і на волю перад смерцю пераcланы!»*

Не зашкодзіла б і нам перачытаць гэтыя напісаныя ў сакавіку 1864-га па-беларуску лісты «з-пад шыбеніцы маскоўскай». Тады працей будзе адказаць на пытанне: чаму запавет Кастуся цалкам надрукаваны ў Беларусі толькі дзесяць гадоў таму?

Як і на іншыя пытанні. Напрыклад, чаму дагэтуль у сталіцы нашай неверагодна суверэннай дзяржавы няма і не прадбачыцца помніка змагару за свабоду і дэмакратыю? Каму выгадна зноў маляваць Каліноўскага ў вобразе польскага інтрыгана?

На жаль, рытарычна гучаць гэтыя пытанні ў краіне, дзе духоўныя спадкаемцы патрыётаў 1863 года абжываюць сёння тыя самыя турэмныя камеры былога Пішчалаўскага замка на вуліцы Валадарскага ў Мінску, у якіх чакалі прысуду паплечнікі нашага нацыянальнага героя — Кастуся Каліноўскага.

